

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь,*
*твой народ*
*дачакаецца*
*Залацістага,*
*яснага дня!*
*М. Багдановіч.*

**№ 4 (133), САКАВІК 2012 ГОДА**


ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

# БЕЗ КРЭДЫТАЎ МОЖНА АБЫСЦІСЯ?

**Кіраўніцтва краіны супакойвае, што Беларусь валодае дастатковымі золатавалютнымі рэзервамі для падтрымання стабільнасці нацыянальнай валюты. Разам з тым кіраўнік Нацбанка Надзея Ермакова нагадала, што Беларусь разлічвала атрымаць ад МВФ 3,5 долараў крэдыту. Але ці можна наогул толькі аднымі замежнымі крэдытамі вывесці эканоміку з сістэмнага крызісу?**

Цягам дзён, з 22 лютага па 6 сакавіка ў Мінску працавала місія МВФ на чале з Крысам Джарвісам. Кіраўніцтва Беларусі прасіла крэдыт 3,5 млрд. долараў ад МВФ для рэфінансавання старога доўгу перад фондам. Прасцей кажучы, грошы патрэбны найперш для таго, каб разлічыцца за папярэднія крэдыты. Як вядома, у 2009 — 2010 гадах МВФ выдзеліў Беларусі крэдыт у памеры 3,46 млрд. долараў. Акрамя таго, кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка з пачатку года ўжо неадназова заяўляў, што сваіх рэзерваў хопіць для падтрымання любога курсу нацыянальнай валюты. Але ён павінен быць абгрунтаваным, разумным і абавязкова свабодным.

Насамрэч, крэдыты яшчэ патрэбны найбольш для структурных пераўтварэнняў у эканоміцы. З усяго вынікае, што раней атрыманыя грошы трэба было выкарыстоўваць на рэальную эканоміку. А гэта павышэнне прадукцыйнасці працы, тэхнічнае і тэхналагічнае пераўзбраенне, структурныя рэформы, залічэнне часткі фінансаў ў рэзервы. Але каб паспяхова правесці мадэрнізацыю, трэба было зняць з бюджэту збанкрутаваныя прадпрыемствы. У нас 48% прадпрыемстваў адносяцца да ліку стратных і нізкарэнтабельных. Рэформы так і не былі праведзены, праграма рэканструкцыі і прыватызацыі суб'ектаў гаспадарання з большага засталася на паперы. У выніку бюджэт цягнуў на ўтрыманні банкрутаў, выдаткоўваліся сродкі на выплату незаробленых грошай.

У дадатак папулісцкая палітыка ўраду прывяла наўпрост да праядання валютных крэдытаў.

У прыватнасці, кіраўніца Нацбанка Надзея Ермакова не бачыць падставы для замарожвання заработнай платы. Як можна рэкамендаваць пагоршыць жыццё насельніцтва? Заработная плата ў нас для бюджэтнікаў запланавана ў расходнай частцы бюджэту. Не выплаціць яе — значыць, зрабіць штучны прафіцыт бюджэту. Навошта гэта рабіць? Тым больш што людзі ж зарплату павінны атрымаць.

Зараз перад уладамі стаіць выбар: спыніць гонку за гэтымі 500 доларавымі заробкамі і паступова выпраўляць сітуацыю, ці чыноўнікі будуць зноў браць крэдыты і сядзець у сваіх крэслах.

Трэба напомніць, што агульная запазычанасць нашай краіны складае каля 30 млрд. долараў, або 52-56% ад ВУП. Калі так пойдзе далей, дык Беларусь наступны крэдыт атрымае на значна горшых умовах. Да таго ж на кожнага беларуса ўжо маецца запазычанасць у 3 тысячы долараў.

Між іншым, пры стабільным курсе беларускага рубля цэны ўсё роўна пацяху паўзуць уверх. Праўда паказчыкі інфляцыі адносна невысокія – ў лютым было 1,93% супраць 1,54% у студзені. Затое медычныя паслугі сталі даражэй на 5,2%, лекі на 4,8%, гароднiна на 9,4%, адукацыйныя паслугі больш чым на 23%.

Між іншым, застаюцца пазіцыі, па якіх цэны дагэтуль замарожаны. Але самыя вялікія чаканні росту коштаў – сярод малочнай прадукцыі. Чэргі за танным малаком – прыкмета нашых дзён.

Увогуле, ці можна ўжываць у дачыненні да нашай сітуацыі такі моцны выраз, як "валютны крызіс"? Вядомы эканаміст Леанід Заіка лічыць, што на самай справе гэта звычайны тупік манетарнай палітыкі. Выходзіць так, што насельніцтва ўспрымае сітуацыю як крызіс. А насамрэч банальны непрафесіяналізм кіраўніцтва дзяржавы, які назіраўся з пачатку мінулага года. Практычна не забяспечвалася раўнавага паміж грашовымі плынямі.

Нежаданне кіраўніцтва краіны своечасова зрабіць заходы па дэвальвацыі рубля прывялі да вялікіх стратаў. Прынцыповай памылкай было жаданне трымаць курс рубля на адным узроўні. І гэта пры дэфіцыце гандлёвага балансу ў 10 мільярдаў долараў за год. Таму трэба было яго дэвальваваць на 1,5-2% у месяц. А рабілася ўсё наадварот, ды яшчэ браліся крэдыты на яго падтрыманне.

Як бы там ні было, але крэдыты МВФ пакуль даваць не спяшаецца. Па-першае, не праведзены рынкавыя рэформы, як таго патрабавалі крэдыторы. Па -другое, ці пойдуць грошы, якія мы атрымліваем у выглядзе крэдытаў, на развіццё, тэхналагічнае пераўзбраенне, павышэнне ўзроўню вытворчасці, зніжэнне энергаёмістасці? Па ўсяму бачна, што ніякія крэдыты не дапамагаюць выйсці з эканамічнага тупіка, калі імі неэфектыўна распараджаюцца.

**Аляксандр Шчамлёў.**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# Яе перадолець спад вытворчасці?

**Пытанні эфектыўнай работы прадпрыемстваў абмяркоўваліся на рабочай нарадзе, якая прайшла ў райвыканкаме. На пасяджэнне былі запрошаны кіраўнікі тых арганізацый раёна, якія не справіліся з планавымі заданнямі за два месяцы.**

Мінулы год аказаўся складаным, бо адчуваліся праблемы ў эканоміцы па ўсёй краіне. Аднак і ў нашым раёне не ўдалося арганізаваць работу прамысловай галіны на неабходным узроўні. Шэраг прадпрыемстваў не ў поўнай меры выкарыстаў наяўны патэнцыял.

Старшыня райвыканкама Генадзь Куранны заслухаў справаздачы кіраўнікоў стратных арганізацый. Больш падрабязныя тлумачэнні па вываду з крытычнай эканамічнай сітуацыі давалі кіраўнікі Шумілінскага льнозавода і Обальскага керамічнага завода. І на гэты раз размова была вельмі падобнай на тую, што была і год таму. Па сутнасці справы ў лепшы бок нічога не змянілася. На заводах не праводзіцца мадэрнізацыя тэхналагічных працэсаў, не ідуць інвестыцыі. Як высветлілася, ні кіраўніцтва, ні спецыялісты аддзелаў не маюць дакладнага ўяўлення аб перспектывах развіцця і шляхах выйсця са складанай эканамічнай сітуацыі.

Да прыкладу, на льнозаводзе ( дырэктар А. Папіна) бракуе ўласнай сыравіны. Калі ў бліжэйшы час льнотрасту не пачнуць завозіць з іншых крыніц, людзі ўвогуле застанцца без працы. Дырэктару Обальскага керамічнага завода В. Старыковічу было ўказана на недастатковую работу з кадрамі і працаўладкаваннем. Апроч таго, слаба наладзілі рэкламу і продаж прадукцыі, што адбіваецца на яе канкурэнтназдольнасці як на айчынным, так і на замежным рынках.

Старшыня райвыканкама раскрытыкаваў нездавальняючую работу шэрагу іншых арганізацый. Справаздачу трымалі кіраўнікі жыллёва-камунальнай гаспадаркі, райбыткамбіната, прадпрыемства меліярацыйных сістэм.

На заканчэнне былі разгледжаны пытанні аб навядзенні парадку на вуліцах горпасёлка і адказных тэрыторыях. Па ўсяму відаць, цяпер начальству на месцах будзе ўсё цяжэй выконваць строгія патрабаванні новага кіраўніка раёна.

**Алесь Шумскі.**

ПРАЦАЎЛАДКАВАННЕ

# КУДЫ ПРАЦАЎЛАДКАВАЦЬ ЛЮДЗЕЙ?

Кіраўніцтва Обальскага керамічнага завода вымушана скараціць дзесяткі рабочых. Але завод з'яўляецца горадаўтвараючым прадпрыемствам, бо ў мястэчку практычна немагчыма знайсці працу. Што зроблена адміністрацыяй раёна, каб людзі змаглі ўладкавацца на новае месца?

Нявыкарыстаныя рэзервы яшчэ ёсць як у раёне, так і па-за яго межамі. Аднак мала стварыць працоўнае месца, трэба яшчэ і навучыць або перакваліфікаваць беспрацоўнага. Да таго ж трэба ўлічваць, што далёка не кожны працаўнік, асабліва передпенсійнага ўзросту зможа перавучыцца. Ды і самі наймальнікі неахвотна бяруць такі кантынгент рабочай сілы.

Тым не менш, на завод былі запрошаны віцебская дэлегацыя з прадпрыемства "Белвест" на чале з намеснікам М. Шатуновым. Перадусім былі наладжаны кантакты з некаторымі шумілінскімі і полацкімі арганізацыямі. Жыццё на месцы не стаіць, а "Белвест" дынамічна развіваецца, таму і адчувае дэфіцыт кадраў. Тут гатовы прыняць на работу звольненых абальчан. Апроч таго, на "Белвесце" згодны арганізаваць падвоз людзей у Віцебск. Наступным этапам будзе навучанне і далейшая праца на абутковай фабрыцы.

Адначасова прадстаўнікі "Белвесту" папярэдзілі, што работа на фабрыцы патрабуе немалых намаганняў ад саміх працаўнікоў. Як паказала практыка, не кожнаму пад сілу праца на канвейеры, адказная і складаная. На вузкай аперацыі трэба падпарадкоўвацца жорсткай дысцыпліне, што само па сабе з'яўляеца дадатковай нагрузкай на работніка.

Разам з тым людзей праінфармавалі аб сацыяльных гарантыях і аплаце. На фабрыцы ёсць уласная паліклініка, сталовая, а сярэдні заробак дасягнуў да 2,8 мільёна рублёў.

Як бы там ні было, але на прапановы віцебскіх візіцёраў адгукнуліся 55 чалавек, якія напісалі заявы ў аддзел кадраў "Белвеста". Астатніх людзей абяцаюць паставіць на ўлік беспрацоўных і прапанаваць альтэрнатыўную працу ў раёне.

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# Год быў няўдалым

**Днямі адбыўся справаздачны сход у "Шумілінскім райаграсервісе". Кіраўнікі, галоўныя спецыялісты трымаюць справаздачы перад сваімі працаўнікамі аб выніках дзейнасці за прайшоўшы год, ставяць задачы на бягучы. Аднак можна сказаць, што мінулы год у гісторыі гаспадаркі быў самым няўдалым.**

Справаздачы і выбары ў АПК – заўсёды адметная падзея для кожнага калектыву. Падводзяцца вынікі вытворчай дзейнасці ў кожнай сферы, даецца ацэнка работы праўлення, аналізуюцца памылкі і ўпушчэнні.

Падсумоўваючы зробленае за мінулы год, дырэктар прадпрыемства Вячаслаў Масько падкрэсліў, што ў гаспадарцы за гэты час адбыліся станоўчыя зрухі. Так, прадпрыемства атрымала прыбытак больш за два мільярды рублёў, прычым узровень рэнтабельнасці склаў 19,8 адсоткаў. Відавочна, гэта удалося дасягнуць дзякуючы падтрымцы з боку дзяржавы.

Шчыра кажучы, вынікі зусім не суцяшальныя, калі работы прадпрыемства выконвае за свае сродкі, сваімі уласнымі сіламі. Людзі пераканаліся ў гэтым, калі дырэктар прывёў канкрэтныя лічбы. Недаатрымалі зерня: валавы збор саставіў усяго 6355 тон замест 11500 запланаваных. Больш падрабязны аналіз паказвае, што знізілася вытворчасць прадукцыі ў жывёлагадоўлі. Адпаведна здаў пазіцыі і дрэвапрацоўчы цэх, дзе аб'ёмы вытворчасці склалі 66,7 адсоткаў да ўроўню мінулага года.

Прынамсі, адыгралі сваю ролю высокія затраты: шмат грошай пайшло на ўгнаенні, рамонт тэхнікі, вапнаванне, паліва, насенне. Адсюль і заробкі невысокія, ды і адкуль ім узяцца, калі прадпрыемства расходуе больш грошай, чым зарабляе?

Ці ёсць рэзервы і шляхі для выхаду гаспадаркі з крызісу і далейшага развіцця? Начальнік райсельгасхарчу Віктар Родзіч бачыць выхад у больш дакладных карэкцыроўках бізнэсплануў на бягучы год. Апроч таго, раённае кіраўніцтва абяцала дапамагчы з рэканструкцыяй памяшканняў ферм у вёсцы Баёўка і пасёлку Светласельскі. Хочацца верыць, што калектыў райаграсервіса і надалей будзе забяспечаны працаздольным звяном адукаваных спецыялістаў. Менавіта тут неабходна энерганасычаная тэхніка, якой на такім узроўні не мае ніводная гаспадарка раёна. Трэба каб толькі была зацікаўленасць калектыву: кожнага і паасобку. Інакш няўдалы год можа зноў паўтарыцца.

**Я. Вайтовіч.**

# "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета стала размяшчаецца на партале *http://kamunikat.org/*, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: *http://kamunikat.org/svitanak.html*, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

ТЭРЫТОРЫЯ ДАБРА

# Дзеці жывуць надзеяй

**Кожны год у Обальскі прытулак трапляюць дзесяткі дзяцей. Сюды накіроўваюцца дзеці, якія па розных, часцей за ўсё суб'ектыўных, сямейных прычынах патрабуюць неадкладнай дзяржаўнай дапамогі.**

Выхаванне дзяцей – гэта грамадзянскі абавязак бацькоў. Але калі гора-бацькі не спраўляюцца са сваімі абавязкамі, тады на дапамогу дзецям прыходзіць дзяржава. Таму дзіцячы сацыяльны прытулак з моманту яго адкрыцця ў Обалі яшчэ ні аднаго дня не пуставаў. Сюды накіроўваюцца дзеці, якія па волі лёсу апынуліся ў сацыяльна небяспечным становішчы. Цяпер ён выконвае функцыю другога, няхай сабе не роднага, але ўсё ж цёплага, утульнага і надзейнага дома.

Летась у прытулку знаходзіліся 52 дзіцяці, з якіх 31 вярнулася да родных бацькоў. Зараз тут знаходзяцца пад апекай сямёра дзетак.

Не толькі бяда, але і галоўная загана нашага грамадства – п'янства. Метавіта п'янства і алкагалізм параджае нябачаную ў ранейшыя часы з'яву, якая атрымала назву сацыяльнае сіроцтва. У населеных пунктах работу з няўдалай сям'ёй вядуць сацыяльна-псіхалагічныя службы ўстаноў адукацыі разам з органамі апекі і папячыцельства, установамі аховы здароўя, камісіямі па справах непаўналетніх. Але названыя ўстановы, так бы мовіць, заклікаы абараніць дзяцей, а не адцверазіць бацькоў.

Па назіраннях педагогаў дзіцячага сацыяльнага прытулка, такія дзеткі часта педагагічна-запушчаныя і ў некаторых з іх назіраюцца нават псіхічныя парушэнні, якія ўзніклі па прычыне сямейных скандалаў. Як заўважыла сацыяльны педагог Т. Лузгіна, выхавацелькам прыйшлося вучыць адну дзяўчынку элементарным рэчам. Яна не ўмела сачыць за знешнім выглядам, карыстацца зубной шчоткай, засцілаць ложак. Другая, якую прывезлі з вёскі, у прытулку ўпершыню даведалася, што акрамя смажанай бульбы і малака маецца яшчэ шмат рознай ежы, напрыклад, катлеты і рыба. Акрамя псіхалагічнай знясіленасці, дзеткі аслабленыя фізічна.

Бываюць і станоўчыя зрухі, калі бацькі перастаюць злоўжываць спіртнымі напоямі і становяцца на шлях выпраўлення. Тыя, хто вяртаецца да нармальнага ладу жыцця, маюць шанс зноў стаць лепшымі бацькам і маці для сваіх дзяцей. У райцэнтры ёсць адна сям'я, якой тры гады таму вярнулі дзіця, і сітуацыя там стабільная – любоў да родных дзяцей усё ж перамагла страшную загану.

Як заўважаюць выхавальнікі прытулка, дзеці заўсёды апраўдваюць сваіх маці і бацьку. І нават тыя бацькі, якія "дзякуючы" алкаголю цалкам страцілі чалавечы выгляд, для сваіх дзетак усё роўна застаюцца самымі прыгожымі і добрымі. Прынесеная імі цукерка, а нават рэдкія наведванні – сапраўдны падарунак лёсу. Хлопчыкі і дзяўчынкі з асаблівым пачуццём чакаюць сваіх бацькоў, і з вялікай горыччу праводзяць да варот. А затым яшчэ доўга жывуць гэтымі хвілінамі сустрэчы, штодзённа чакаючы родных людзей.

Варта адзначыць, што дзякуючы спагадлівым людзям, на Шумiлiншчыне 11 дзяцей у мінулым годзе ўзялі на выхаванне прыёмныя бацькі.

Безумоўна, у кожнага з гэтых рабят было мінулае, ёсць сучаснае і ёсць будучае.

А вось як складзецца лёс сённяшніх гора-бацькоў, якія заўтра стануць слабымі і старымі людзьмі? Хутчэй за ўсё яны, як іх дзеці, самі апынуцца пад апекай дзяржавы.

**С. Горкі.**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# БЫТАВІКІ ВЫЖЫВУЦЬ САМІ

**Шумілінскі райбыткамбінат – шматгаліновае прадпрыемства, якое аказвае насельніцтву шырокі спектр паслуг. У яго шмат падраздзяленняў: атэлье па рамонту і пашыву адзення, участкі па рамонту абутку, хімчыстка, цырульня і пральня. Аднак прыбытку як не было раней, так няма яго і цяпер – і без таго сціплы бюджэт прадпрыемства з'елі даўгі.**

Сфера бытавога абслугоўвання за сваё існаванне перажывала эканамічныя ўзлёты і падзенні часцей, чым якая-небудзь іншая галіна дзейнасці. Раённы камбінат бытавога абслугоўвання насельніцтва і ў стабільны савецкі час не меў вялікага прыбытку. Пазней, калі справы ў эканоміцы пагоршыліся, бытавікам прыйшлося ўвогуле цяжка – ледзь зводзілі канцы з канцамі. Але сітуацыя стабілізавалася, і з'явіліся надзеі на лепшае ў сферы бытавых паслуг.

Паводле дырэктара Віктара Бабічава, прадпрыемства ў мінулым годзе не мела ад сваёй дзейнасці ніякіх прыбыткаў. Даныя сведчаць аб тым, што ўсяго зарабілі 740 мільёнаў рублёў, пры гэтым было аказана паслуг на 560 мільёнаў рублёў. У той час, як пастаўшчыкам завінаваціліся 70 мільёнаў. Пакуль паступова разлічыліся, то ў рэшце рэшт атрымалі нулявыя вынікі. І гэта яшчэ не ўсё: патрэбна вярнуць каля 20 мільёнаў рублёў. Калі ў мінулым годзе сярод раённых камбінатаў Шумілінскі КБА займаў другое месца, то сёлета апусціўся на сёмае. Сярэдні заробак склаў усяго 800 тыс. рублёў, што зусім мала – у сярэднім па вобласці сярод падведамасных камбінатаў было 1 мільён 800 тысяч рублёў.

Як бачна, падзенне значнае. Што перашкодзіла шумілінскім бытавікам рухацца наперад, да росту прыбыткаў і рэнтабельнасці?

Па-першае, прадпрыемства страціла некаторыя віды паслуг на даволі ўнушальную суму – 97 мільёнаў рублёў. Найбольш стратнымі былі паслугі пральні, павялічылася спажыванне электраэнергіі. Да таго ж прамысловая пральная машына ў райцэнтры сапсавалася. Праўда, комплексныя прыёмныя пункты на сяле маюць свае бытавыя машыны. Аднак вяскоўцы несці сваю бялізну да бытавікоў не спяшаюцца, бо абслугоўваюць сябе самі. Апошнімі кліентамі застаюцца работнікі сацыяльнай службы, якія прыносяць бялізну ад састарэлых людзей.

Па-другое, не ў поўнай меры загружаны цэх рамонту і пашыву адзення. Для гэтага не хапіла абаротных фондаў.

Па-трэцяе, дзяржаўнаму прадпрыемству саставілі канкурэнцыю прыватнікі. Да прыкладу, прыватны сектар паспяхова асвоіў такую паслугу, як шынамантаж. Дарэчы, зараз шмат гаворкі ідзе пра тое, што бытавое абслугоўванне неабходна перадаць у рукі прыватнікаў. Але пакуль што прадстаўнікі "малога" бізнесу не праяўляюць асаблівай актыўнасці.

Якое выйсце на перспектыву? Дырэктар КБА Віктар Бабічаў плануе нарошчваць аб'ёмы паслуг і пашыраць сацыяльны спектр паслуг. Больш прыбытковыя віды паслуг магчымы ў вырабе бетоннай агароджы, адначасова трэба развіваць накірунак рытуальных паслуг, займацца рамонтам мэблі.

Рынку бытавых паслуг у нашым раёне яшчэ ёсць куды развівацца. Тым больш, што КБА па ранейшаму манапаліст бытавой сферы. Вось толькі каб спажыўцы не збядненлі ды рознічныя цэны не падскочылі.

**Алесь Прыбярэжны.**

ВАЛАНЦЁРСКІ РУХ

# ДЗЯЎЧЫНКІ-ГАЙДЫ. ХТО ЯНЫ?

**Дзяўчынкі з атрада дзіцячага грамадскага аб'яднання "Асацыяцыя беларускіх гайдаў", якія дзейнічае на Шумiлiншчыне, правялі традыцыйную імпрэзу. Былі арганізаваны гульні экалагічнай тэматыкі, праведзены майстар-клас.**

Упершыню на Беларусі першая суполка гэтага руху з'явілася ў 1926 годзе, калі ў Вілейскай беларускай гімназіі быў створаны атрад дзяўчынак пад назвай "Сёстры вогнішча". Аднак арганізацыя праіснавала толькі да 1929 года. А 5 чэрвеня 1993 года ў сталіцы прайшла першая ўстаноўчая канферэнцыя, дзе было вырашана стварыць Асацыяцыю беларускіх гайдаў. Гэты дзень лічыцца днём нараджэння арганізацыі, у якой

ёсць свае эмблема, сцяг і песня.

З 2008 года на базе Шумілінскага раённага Цэнтра пазашкольнай работы дзейнічае Віцебскае аддзяленне дзіцячага грамадскага аб'яднання "Асацыяцыя беларускіх гайдаў".

Тут існуюць чатыры атрады, удзельнікаў якіх праз штотыднёвыя сустрэчы з лідэрам вучаць быць камунікабельнымі, прымаць самастойныя рашэнні, вырашаць канфлікты, разумець сябе і свае ўнутраныя праблемы, ставіць мэты і шукаць шляхі іх дасягнення.

Штогод дзяўчынкі-гайды арганізоўваюць і праводзяць акцыю міласэрнасці "Дабро — дзецям!": збіраюць адзенне, цацкі, дзіцячыя кнігі і праводзяць гульнявую праграму з выхавальнікамі Обальскага раённага сацыяльнага прытулку.

Напрыканцы лютага шумілінскія гайды правялі імпрэзу ў раённым Цэнтры дзяцей і моладзі. На сустрэчу запрасілі вучняў з СШ № 2. На гэты раз мерапрыемства праходзіла пад лозунгам: "Мы можам выратаваць нашу планету ўжо сёння". Сімвалам акцыі стала зялёнае дрэва. Пазнавальныя гульні на тэму чысціні навакольнага асяроддзя паказалі дзецям, як трэба берагчы прыродныя рэсурсы. Школьнікі дзяліліся вопытам даследчай работы, дзяваліся пра эканомію энергарэсурсаў ў школе і дома. Пры гэтым быў адкрыты фонд Дня разважанняў, сродкі якога пойдуць на вырашэнне экалагічных праблем. Сутрэча атрымалася цікавай і захапляльнай, усе ўдзельнікі атрымалі падарункі. Безумоўна, што кожная сяброўка атрада гайдаў зараз адчувае ўпэўненасць у сваіх сілах, лічыць сваім абавязкам працу на карысць грамадства.

**С. Горкі.**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# АГЛЕДЗЕЦЬ КОЖНЫ ДОМ

**Працягваюцца традыцыйныя падворныя абходы. На гэты раз спецыяльна створаная камісія з райвыканкама абыйшла ўсе вёскі Дабейскага сельсавета. Увайсці ў кожны дом, выслухаць дюдзей, з разуменнем паставіцца да іх патрэбаў – вось галоўны накірунак мерарыемства.**

З мэтай актывізацыі работы па навядзенні парадку ў населеных пунктах распрацоўваюцца мерапрыемствы, накіраваныя на вырашэнне тых праблем, з якімі сутыкаецца кожны чалавек у сваёй жыцця¬дзейнасці. Гэта ў сваю чаргу павышае свядомасць людзей, працоўную актыўнасць, культуру і адказнасць.

Члены аглядавай камісіі для больш зручнай працы раздзяліліся на некалькі груп. У кожную групу ўваходзілі прадстаўнікі райвыканкама, раённых арганізацый, дэпутаты мясцовых саветаў, старэйшыны вёсак, кіраўнікі і спецыялісты сельскагаспадарчых прадпрыемстваў.

Высветліць усе пытані, дасканала ўнікнуць у надзённыя праблемы жыхароў можна толькі пры асабістай размове. Таму чыноўнікі хадзілі па дамах і запісвалі просьбы і пажаданні вяскоўцаў. Што хваліе на сённяшні дзень сельскіх жыхароў?

Асноўным гэта набалелае пытанне для усіх вёсак сельсавета – іржавая вада ў водаправодзе. Ад гэтага ламаюцца не толькі пральныя машыны, але і ставіцца пад пагрозу здароўе чалавека. Здароўе чалавека – асноўная каштоўнасць. Улада ўсклала на сябе абавязкі яго захаваць – у сэнсе засцерагчы ад знешніх фактараў, якія "косяць" людзей не менш, чым хваробы. У прыватнасці, ад гібелі людей на пажарах. Да прыкладу, у Ляжнях некалькі жылых дамоў пачалі разбурацца. Яшчэ ў двух дамах выяўлены няспраўныя печы, жыхарам было ўказана ўстанавіць аўтаномны пажарны апавяшчальнік. Дарэчы, у першую чаргу апавяшчальнікі ўстанаўліваюцца ў тых дамах, дзе пражываюць мнагадзетныя сем'і і інваліды.

Па -за ўвагай не засталося, што пенсіянеры ў вёсцы Ляжні непакояцца аб закрыцці паштовага аддзялення. Між тым, прадстаўнікі ўлады заверылі, што людзей будзе абслуговаўваць мабільная пошта.

Нават звычайны пералік таго, што не рабілася ўладамі і адпаведнымі службамі на тэрыторыі сельсавета на працягу апошніх гадоў, даюць уяўленні аб маштабах нявырашаных праблем. Так, калонкі не працуюць, смецце вывозяць нерэгулярна, бібліятэка зачынена, дрэнная якасць тэлефоннай сувязі, у мясцовай краме бедны асартымент тавараў.

Затое на цэнтральная сядзібе гаспадаркі вёсцы Дабея нараканняў ад жыхароў амаль не паступала. Былі толькі просьбы аб рамонце пад'езду і ходнікаў. Няблага было б і давесці да ладу праезджую частку па вуліцы Садовай.

Пытанні жыццязабеспячэння: матэрыяльны дабрабыт, узровень культуры, добраўпарадкаванне населеных пунктаў, стварэнне прымальных і здаровых умоў працы, быту і адпачынку, санітарна-гігіенічныя, — былі і застануцца, прыярытэтамі ў дзейнасці сельскага Савета дэпутатаў, сельвыканкама. Аднак ці знойдуцца сродкі ў бюджэце для падтрымання сацыяльных стандартаў?

**Уладзімір Амбросаў.**

МЫТНЫ САЮЗ

# ЯКІ «ДАНАЙСКІ СЮРПРЫЗ» ХАВАЎСЯ ЗА МЫТНЫМ САЮЗАМ?

ДАДЗЕНЫЯ ПА ФУНКЦЫЯНАВАННЮ БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІКІ ВА ЎМОВАХ МЫТНАГА САЮЗА З КОЖНЫМ ДНЁМ УСЁ БОЛЬШ І БОЛЬШ ДЭМАНСТРУЮЦЬ, ШТО ЧАКАННІ УЛАДАЎ АДНОСНА ПЕРСПЕКТЫЎ, ЯКІЯ ДЛЯ НАС АДКРЫВАЮЦЦА, АПЫНУЛІСЯ ПАДМАННЫМІ.

Адным з галоўных аргументаў беларускіх уладаў пры падпісанні ключавых дамоўленасцяў адносна функцыянавання Мытнага саюза, быў велізарны расійскі рынак, які адкрыецца для нашых прадпрыемстваў. Маўляў, гэта дазволіць Беларусі ў разы павялічыць экспарт і праз гарантаваны збыт сваёй прадукцыі, гарантаваць і стабільнасць айчыннай эканомікі. Дзеля гэтага мы ўзнялі пошліны на ўвоз аўтамабіляў, наступіўшы на горла сваім грамадзянам. Дзеля гэтага адкрылі краіну для драпежнага расейскага капіталу, тым самым адсунуўшы ў бок айчынны бізнэс.

Мы адкрылі вароты і самі завалаклі на сваю тэрыторыю данайскія падарункі, не падазраючы, які сюрпрыз нас чакае.

**Два рынку - два свету**

Калі Расія адкрывала для Беларусі свой рынак, яна зусім нічым не рызыкавала. Нават калі ўсе беларускія прадпрыемствы разам пачнуць працаваць выключна на Расею, гэта толькі трохі абвострыць канкурэнцыю на рынку і не больш за тое. Расея цалкам здольная пераварыць прадукцыю ўсіх беларускіх прадпрыемстваў і нават не папярхнецца. Нават нястраўнасці не атрымае. Максімум - атрымае задаволеную адрыжку, як пасля сытнага абеду.

Зусім іншая справа - адкрыты рынак Беларусі для расейскіх прадпрыемстваў, якія апошнія 20 гадоў і развіваліся ў зусім іншых больш свабодных умовах, і маркетынг маюць такі, які нашым лідэрам прамысловасці, якія звыкліся спадзявацца на дзяржпадтрымку, нават і не сніўся.

Менавіта таму яшчэ да падпісання асноватворных дакументаў па Мытным саюзе, многія беларускія эксперты сцвярджалі, што вынікам гэтага саюза вельмі хутка стане паглынанне Беларусі Расеяй. Тады многія над гэтым пасмяяліся, але сёння дадзеныя беларускай статыстыкі пацвярджаюць гэтыя асцярогі.

**Станоўчае сальда і зрокавыя ілюзіі**

Мінулы 2011 год стаў для Беларусі сапраўдным выпрабаваннем. Імклівае падзенне беларускага рубля, гіперінфляцыя, распродаж асноўных актываў краіны - гэта толькі пачатак канца, які бачаць незалежныя эксперты.

Улады Беларусі ўжо да канца года пачалі супакойваць народ, што дэвальвацыя рубля, дапамагла беларускай эканоміцы аздаравіцца і істотна нарасціць свой экспарт. Маўляў, гэта як кровапусканне, якое хоць і непрыемна, але яшчэ ў старажытныя часы ўжывалася для абнаўлення арганізма.

І сапраўды, калі паглядзець на дадзеныя Белстата, то Беларусь упершыню за апошнія гады выйшла на дадатнае сальда знешняга гандлю і нарошчвае яго месяц ад месяца.

Так, калі параўнаць вынікі знешняга гандлю за студзень 2012 года са студзенем 2011 года, то мы атрымаем павеліченне знешнегандлёвага абароту на 2,383 мільярда даляраў (на 55,3 працэнта). Пры гэтым экспарт беларускай прадукцыі павялічыўся на 1,623 мільярда даляраў (на 91,1 працэнт), а імпарт вырас усяго 757млн. даляраў (на 30 адсоткаў), што дало нам станоўчае сальда ў 126,1 мільёна даляраў.

Гэтыя лічбы глядзяцца яшчэ больш аптымістычней, калі прыняць да ўвагі, што дадзеная тэндэнцыя, як кажуць беларускія ўлады, не часовая, а больш-менш пастаянная на працягу як мінімум апошніх шасці месяцаў. Нацбанк нават праводзіць інтэрвенцыі, каб не даць беларускаму рублю ў гэтай спрыяльнай сітуацыі занадта адужэць і падоўжыць гэтае шчаслівае імгненне.

На самой справе гэта ўсяго толькі падман, зрокавая ілюзія прыгожага данайскага каня, усярэдзіне якога хаваюцца непрыемныя сюрпрызы. Яны выразна бачныя, калі паглядзець дадзеныя па знешнім гандлі ў рамках Мытнага саюза, ў прыватнасці з Расіяй.

Так, паводле дадзеных Белстата, за студзень 2012 года да студзеня 2011 года знешнегандлёвы абарот ўнутры МС павялічыўся на 1,119 мільярда даляраў або на 53,7 працэнта. Але - вось сюрпрыз! - беларускі экспарт павялічыўся ўсяго на 147 мільёнаў даляраў (на 19,3 працэнта), у той час як імпарт вырас на 968 мільёнаў даляраў (на 77,8 працэнта). Іншымі словамі рост імпарту над ростам экспарту апынуўся чатырохразовым (!). І гэта пры аслабелым беларускім рублі (!), у выніку чаго беларускія тавары атрымалі цэнавую перавагу перад канкурэнтамі ўнутры МС.

Калі паглядзець дадзеныя канкрэтна па Расіі, то карціна атрымліваецца яшчэ больш палахлівая. Так, па дадзеных Белстата, за студзень экспарт у Расію павялічыўся ўсяго на 17,5 адсоткі, у той час як імпарт - на 79 адсоткаў. Як вынік -- рост адмоўнага сальда аж у 3 (!) разы, з мінуса 386 млн. даляраў, да мінус 1,21 мільярда даляраў.

Дык хто і для каго адкрыў свой рынак? Тут яшчэ трэба ўлічыць, што пэўную станоўчую ролю адыграла дэвальвацыя беларускага рубля, якая дазволіла нашым прадпрыемствам адносна стабільна пратрымацца на расійскім рынку і нават выклікаць незадавальненне некаторых канкурэнтаў з боку Вялікага брата. А што будзе, калі беларускі рубель ізноў ўмацуецца?

**Аляксандр Надзішын, «Штодзённік»**

ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗНІ

# АЛЕНА КАВАЛЕНКА: «ТАКОЕ ЛЯЧЭНЬНЕ - ЯК КАТАВАНЬНЕ»

ЖОНКА ГАЛАДОЎНІКА СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКА АЛЕНА ЗЬБІРАЕЦЦА СКАРДЗІЦЦА НА ДЗЕЯНЬНІ ПА ПРЫМУСОВЫМ ВЫВАДЗЕ ЯЕ МУЖА З ГАЛАДОЎКІ. ЦІ ПЕРАВЯЛІ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА З КАРАНТЫНУ Ў АТРАД? МІКАЛАЙ СТАТКЕВІЧ ТУРБУЕЦЦА ПРА ЗЬМІТРА ДАШКЕВІЧА. ПАВАЛ СЕВЯРЫНЕЦ НЕ ВЫКЛЮЧАЕ, ШТО ПЕРШЫМ З ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ ВЫЗВАЛЯЦЬ ЗЬМІТРА БАНДАРЭНКУ.

Алена Каваленка зьбіраецца абскарджваць дзеяньні адміністрацыі менскага ізалятару па прымусовым вывадзе яе мужа з галадоўкі. «Гэта не лячэньне, а катаваньні», — кажа Алена Каваленка пра тое, што ў выніку гвалтоўных дзеяньняў Сяргею Каваленку паставілі крапельніцу, пасьля чаго ў яго ўтварылася гематома на руцэ. Таксама Алена Каваленка будзе абскарджваць рашэньне аб прымусовым абсьледаваньні мужа ў псыхіятрычнай лякарні. Жонка вязьня працытавала ліст, які атрымала сёньня з Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў: «„14.03.2012 году Каваленка С. А. агледжаны дацэнтам катэдры псыхіятрыі і наркалёгіі Беларускай мэдыцынскай акадэміі пасьлядыплёмнай адукацыі. Выстаўлены дыягназ — расстройства адаптацыі. Рэкамэндавана псыхіятрычнае абсьледаваньне на прадмет удакладненьня дыягназу і магчымага лячэньня з мэтай прадухіленьня наступстваў, якія небясьпечныя для здароўя. На падставе рэкамэндацый зараз вырашаецца пытаньне аб далейшым лячэньні Каваленкі С. А. ў псыхіятрычнай лячэбнай установе з мэтай спыненьня адмовы ад прыёму ежы“. Атрымліваецца, што ў звычайны шпіталь яго не кладуць, а зьбіраюцца пакласьці ў псыхушку і зрабіць зь яго вар'ята. Гэта я лічу працягам катаваньняў і зьдзекам, працягам таго, што ўчора яны пачалі яго прымусова лячыць».

Алена Каваленка з братам Сяргея Віталём зьбіраюцца 19 сакавіка прыехаць у Менск, каб сустрэцца зь Сяргеем Каваленкам. «Не выключаем, што ён будзе ўжо ў Навінках і сустрэчу не дазволяць, але ў нас няма іншага выйсьця», — кажа жонка галадоўніка.




Праваабаронца Алесь Бяляцкі даслаў жонцы ліст, у якім прадказвае, што 15 сакавіка яго могуць перавесьці з ізалятару ў атрад. «Ці перавялі сапраўды, невядома, але магчыма, што наступны ліст напіша ўжо з атраду», — кажа Натальля Пінчук. Пра здароўе і самаадчуваньне Алесь Бяляцкі нічога не напісаў, але паводле ліста Натальля робіць выснову, што настрой у мужа бадзёры:

Піша, што і на паветра выходзіць, і прыроду бачыць, і сонца вясновае адчувае.

Мікалай Статкевіч, былы кандыдат на прэзыдэнта, таксама піша, што шмат выходзіць на прагулкі і радуецца вясьне, якая прыйшла і ў турэмны дворык Магілёўскай калёніі. Пасьля першага за 7 месяцаў зьняволеньня тэлефоннага званку ад мужа жонка палітвязьня Марына Адамовіч атрымала ад яго яшчэ два лісты. У адным зь іх Мікалай Статкевіч выказвае занепакой лёсам Зьмітра Дашкевіча, якога днямі зноў зьмясьцілі ў карцэр Глыбоцкай калёніі. Як можа далей скласьціся лёс Дашкевіча паводле Мікалая Статкевіча?

«У апошнім лісьце піша, што зь ім могуць быць наступныя варыянты. Альбо яго рыхтуюць да пераводу ў крытую турму, альбо вядуць на 411 артыкул. Альбо каб проста даць яшчэ на паўгады ПКТ — памяшканьне камэрнага тыпу. Варыянт 411-га палохае болей за ўсё», — кажа Марына Адамовіч.

411 артыкул Крымінальнага Кодэксу — гэта злоснае парушэньне патрабаваньняў адміністрацыі месцаў пазбаўленьня волі. Максымальнае пакараньне за гэтае злачынства — да 2 гадоў пазбаўленьня волі. Паводле пакараньня, якое зараз адбывае Зьміцер Дашкевіч, яго мусяць вызваліць у сьнежні.

«Хімік» Павал Севярынец у вольны час піша чарговы артыкул — зараз да 80-годзьдзя пастара Эрнста Сабілы. На пытаньне, ці магчыма ў хуткім часе вызваленьне каго з палітвязьняў, Павал Севярынец адказаў гэтак: «Пра сябе я не чакаю гэтага. Адзінае, што дапускаю, што могуць вызваліць бліжэйшымі днямі Дзьмітрыя Бандарэнку. Гэта, мяркую, будзе. Усё астатняе, напэўна, будзе па адным і расьцягнецца на доўгія месяцы. Таму што бачна, што Лукашэнка вядзе гандаль, гандлюе людзкімі лёсамі».

СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ

# «Расстрэл Кавалёва – гэта ірацыянальныя паводзіны хворага чалавека»

НАМЕСНІК СТАРШЫНІ БЕЛАРУСКАГА ХЭЛЬСЫНСКАГА КАМІТЭТУ ГАРЫ ПАГАНЯЙЛА КАЖА, ШТО ЯМУ ЦЯЖКА МЕРКАВАЦЬ, ШТО СТАІЦЬ ЗА ТАКОЙ ХУТКАСЦЮ ВЫКАНАНЬНЯ ПРЫСУДУ КАВАЛЁВУ, БО ЁН НЯ ВЕДАЕ ЎСІХ АКАЛІЧНАСЦЯЎ.

Але многія, хто выказваў сумневы адносна справядлівасці гэтага прысуду, шматлікіх супярэчнасцяў і падчас следства, і падчас судовага працэсу маюць рацыю:

– Многія хочуць, хто меў дачыненне да гэтага працэсу, каб хутчэй расстралялі, і канцы ў ваду. Я думаю, што той, ад каго залежаў лёс гэтых хлопцаў, і асабліва Кавалёва (таму што многія разлічвалі на тое, што Кавалёва могуць памілаваць, і варта было б памілаваць) проста дзейнічае на хвалі жорсткай канфрантацыі, крытыкі і жорсткай размовы з Захадам. Вядома, што ў Камітэце па правах чалавека ААН разглядаецца скарга і асуджанага, і маці.

І гэта ўжо трэці выпадак, калі пры наяўнасці просьбы Камітэту ААН, звернутай да ўраду, не прыводзіць прысуд у выкананне да разгляду індывідуальнай скаргі, урад паступае такім чынам. Гэта сведчыць пра грэбаванне, ігнараванне вызначанага міжнароднага парадку, аўтарытэту міжнародных праваабарончых органаў.

Гэта нават не выклік. Я нават не магу ахарактарызаваць, што гэта такое. Гэта ірацыянальныя паводзіны хворага чалавека, які не ведае, што творыць. Рэакцыя міжнародных арганізацый будзе жорсткай. Будуць вялікія іміджавыя страты ў краіны.

**Крыніца: «Радыё Свабода»**

ЖАЛЕЗНЫ ЗАНАВЕС

# СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ ПАПОЎНІЎ «СПІС НЕВЫЯЗНЫХ»

18 САКАВІКА НА СТАНЦЫІ ГУДАГАЙ НА БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКАЙ МЯЖЫ ЯГО ССАДЗІЛІ З ЦЯГНІКА «МЕНСК-ВІЛЬНЯ».

Як распавёў "Салідарнасці" палітык, ён ехаў у Вільню адразу па некалькіх справах.

— Я павінен быў браць ўдзел ў Днях беларускай культуры, што праходзяць у Літве, павінны былі быць мерапрыемствы ў Сейме, — падзяліўся нерэалізаванымі планамі палітык. — Былі і іншыя справы. І вельмі шкада, што яны засталіся нерэалізаваныя.

На мяжы на станцыі Гудагай палітыка знялі з поезда.

— Мне сказалі, што такі ў іх загад, — адзначае Шушкевіч. — Капітан прама заявіў: "Калі я вас выпушчу, то заўтра мяне пасадзяць у турму. Так што зараз еду на дызельцягніку ў Маладзечна. Потым — у Маскву. Мала таго, што мяне пазбавілі пенсіі і магчымасці працаўладкавацца на радзіме, так яшчэ і пазбаўляюць магчымасці зарабіць за мяжой. Што ж, паспрабую тады зарабіць у Маскве.

Як вядома, у сакавіку за межы Беларусі не змаглі выехаць кіраўнік АГП Анатоль Лябедзька і яго намеснік Аляксандр Дабравольскі, каардынатар кампаніі «За справядлівыя выбары» Віктар Карняенка, кіраўнік Партыі левых «Справядлівы свет» Сяргей Калякін. Трапілі ў спіс невыязных праваабаронца цэнтру «Вясна» Валянцін Стэфановіч, кіраўнік БХК Алег Гулак, праваабаронца БХК Гары Паганяйла, а таксама кіраўніца БАЖ Жанна Літвіна, прадстаўнік «Белсату» Міхал Янчук, шэф-рэдактар газеты «Наша Ніва» Андрэй Дынько.

**Анастасія Зелянкова.**

ПРАБЛЕМЫ РЭФОРМАЎ

# ЗАЦЯГВАННЕ СТРУКТУРНЫХ РЭФОРМАЎ - ДАРОГА Ў ДАЎГАВУЮ ЯМУ

СУКУПНЫ ЗНЕШНІ ДОЎГ БЕЛАРУСІ, ПАВОДЛЕ ЗВЕСТАК НАЦБАНКА, ДАСЯГНУЎ 34 МЛРД. 28,4 МЛН. ДАЛЯРАЎ, АБО 62,3% ВУП. ЗА 2011 ГОД ЁН ВЫРАС НА 19,8%. ЗНЕШНІ ДОЎГ УРАДА НА 1 ЛЮТАГА СКЛАЎ 11 МЛРД. 822 МЛН. ДАЛЯРАЎ. ЭКСПЕРТЫ АЦЭНЬВАЮЦЬ СІТУАЦЫЮ ЯК ДОСЫЦЬ ТРЫВОЖНУЮ. НЕБЯСПЕКА, ПА ІХ СЛОВАХ, УЯЎЛЯЕ НЕ СТОЛЬКІ ПАМЕР ЗНЕШНЯГА ДОЎГУ, КОЛЬКІ АДСУТНАСЦЬ СТРУКТУРНЫХ РЭФОРМАЎ У ЭКАНОМІЦЫ. БЕЗ ІХ ПАГРАЖАЕ ЗВАЛЬВАННЕ Ў ДАЎГАВУЮ ЯМУ.

Па законе аб бюджэце, на абслугоўванне аднаго толькі вонкавага дзярждоўгу ў 2012 годзе прадугледжана накіраваць 1,631 млрд. даляраў. Пры гэтым самыя буйныя плацяжы - 562,91 млн. даляраў - павінны пайсці на пагашэнне крэдыту Міжнароднага валютнага фонду ў 3,46 млрд. даляраў, які Беларусь атрымала ў 2009-2010 гадах.

Урад разлічваў рэфінансаваць запазычанасць перад МВФ за кошт новага крэдыту фонду, аднак планам гэтым, мяркуючы па ўсім, спраўдзіцца не наканавана. На брыфінгу 5 сакавіка прадстаўнік МВФ Крыс Джарвіс заявіў: «Мы не рэфінансіруем той доўг, які краіна мае перад намі».

Джарвіс узначальваў місію экспертаў, якая працавала ў Мінску з 22 лютага па 6 сакавіка. На выніковым брыфінгу ён абвясціў ўмовы, на якіх Беларусі можа быць выдзелены новы крэдыт.

Прадстаўнік МВФ адзначыў поспехі ўрада ў плане зніжэння інфляцыі і скарачэння знешніх дысбалансаў, а таксама вітаў прынятую урадам і Нацбанкам «узважаную эканамічную палітыку на 2012 год: збалансаваны бюджэт, жорсткія абмежаванні крэдытавання ў рамках дзяржаўных праграм і надзейны кантроль за крэдытам».

Аднак, падкрэсліў Джарвіс, МВФ павінен быць упэўнены ў тым, што «людзі і структуры, якія адказваюць за прыняцце рашэнняў на самым высокім узроўні, падтрымліваюць прапанаваныя меры эканамічнай палітыкі».

Кіраўнік місіі падверг крытыцы шэраг запланаваных паказчыкаў. Так, паводле яго слоў, «мэтавы паказчык эканамічнага росту на ўзроўні 5% на 2012 год не адпавядае захоўваецца неабходнасцю далейшага зніжэння інфляцыі». «Мы таксама лічым, што было б памылковым значна павышаць заробак, пакуль не ўсталюецца больш трывалая стабільнасць», - сказаў Джарвіс.

Заўчасным лічыць МВФ і зніжэнне стаўкі рэфінансавання Нацбанка да 38%. «Ураду варта вызначыць палітыку структурных рэформаў, арыентаваных на павышэнне прадукцыйнасці і эканамічнага росту», - падкрэсліў Джарвіс.

МВФ рэкамендуе Беларусі правесці лібералізацыю цэн; узмацніць самастойнасць кіраўніцтва дзяржпрадпрыемстваў; спрасціць ператок рабочай сілы з галін, у якіх назіраецца спад, у якія растуць галіны; ўмацаваць ролю прыватнага сектара шляхам рэфармавання банкаў, прыватызацыі прадпрыемстваў і мер, якія дазваляюць прыцягнуць інвестыцыі як замежных, так і беларускіх прадпрымальнікаў.

Крыс Джарвіс таксама падкрэсліў: неабходна пераканацца ў тым, што новая праграма крэдытнага супрацоўніцтва з Беларуссю будзе падтрымана ўсімі краінамі-членамі МВФ.

На пытанне, ці можа паўплываць на рашэнне МВФ абвастрэнне адносін паміж Мінскам і Бруселем, прадстаўнік фонду адказаў вельмі дыпламатычна: «Мы не можам гэта прадбачыць, што будзе ўплываць на рашэнне і паводзіны краін-членаў МВФ».

У сваю чаргу, беларускія ўлады пэдалююць менавіта палітычны аспект праблемы супрацоўніцтва з МВФ. Як заявіла 7 сакавіка ў інтэрв'ю агенцтву БелТА старшыня праўлення Нацбанка Надзея Ермакова, «прадстаўнікі МВФ, якія былі тут, не хаваюць, што ў большай ступені маюць уплыў палітычная сітуацыя і палітычныя пытанні, згода краін-удзельніц МВФ працаваць з Беларуссю па новай праграме».

Па словах Ермаковай, Беларусь абыдзецца без крэдыту МВФ. «Высновы, якія яны зрабілі з нагоды таго, што трэба затармазіць рост рэальнай заработнай платы і, магчыма, нават яе знізіць, напэўна, не ўкладваюцца ў нармальнае разуменне, - заявіла кіраўнік Нацбанка. - Як можна рэкамендаваць пагоршыць жыццё насельніцтва? Заработная плата ў нас для бюджэтнікаў запланавана ў расходнай частцы бюджэту. Ці не выплаціць - яе значыць зрабіць штучны прафіцыт бюджэту. Навошта гэта рабіць? ».

Каментуючы адносіны ўладаў з МВФ, аналітыкі адзначаюць: урад спрабуе выкрыць МВФ у палітызаванасці, каб адцягнуць увагу грамадскасці ад галоўнага - адсутнасці рэальных рэформаў у эканоміцы.

Вядома, МВФ як фінансавы інстытут у першую чаргу цікаваць эканамічныя пытанні, кажа былы кіраўнік Нацбанка Станіслаў Багданкевіч. «Яны хочуць пераканацца ў тым, што крэдыт, у выпадку вылучэння, пойдзе не на праяданне і падтрымку палітычнага рэжыму, а на рашэнне канкрэтных праблем выхаду з крызісу», - адзначае эксперт.

Хоць, на думку Багданкевіча, цалкам лагічная і зацікаўленасць фонду ў палітычнай лібералізацыі.

Па-першае, нагадвае ён, члены МВФ, якія валодаюць кантрольным пакетам акцый, - гэта як раз тыя краіны, якія крытыкуюць Беларусь за сытуацыю з правамі чалавека і палітычнымі свабодамі.

Па-другое, палітычная лібералізацыя важная не толькі для МВФ, але і для любога сур'ёзнага інвестара, падкрэслівае экс-кіраўнік Нацбанка.

Згодна з Канцэпцыі нацыянальнай бяспекі Беларусі, сукупны знешні доўг не павінен перавышаць 55% ВУП. Як бачым, краіна ўжо перасягнула гэтую мяжу.

Па словах прафесара Багданкевіча, знешні доўг некаторых краін, у тым ліку эканамічна развітых, напрыклад Японіі, нават перавышае ВУП. Але калі эканоміка канкурэнтаздольная і высокарэнтабельных, значны памер знешняга доўгу можа быць не крытычным.

Памер знешняга доўгу варта ўвязваць з цэлым шэрагам эканамічных фактараў, адзначаюць аналітыкі. Пры адсутнасці эфектыўнай праграмы структурных рэформаў павелічэнне беларускага знешняга доўгу сапраўды выглядае пагрозлівым. У гэтай сітуацыі вельмі недарэчы ўскладненне адносін Беларусі як з ЕС, так і з МВФ, які з 1 красавіка паніжае статус свайго прадстаўніцтва ў Мінску.

Паводле прагнозаў аналітыкаў, з часам Беларусі зноў прыйдзецца звяртацца за дапамогай да МВФ, які выдае самыя танныя і выгадныя крэдыты.

**Ірына Леўшына.**

МІЖНАРОДНЫЯ АДНОСІНЫ

# СТАНЕТ ЛИ ПУТИН РВАТЬ ЖИЛЫ ЗА ЛУКАШЕНКО?

ЕВРОПАРЛАМЕНТ ОТЛОЖИЛ ГОЛОСОВАНИЕ ПО РЕЗОЛЮЦИИ О СИТУАЦИИ В БЕЛАРУСИ, КОТОРОЕ ДОЛЖНО БЫЛО СОСТОЯТЬСЯ НА ПЛЕНАРНОЙ СЕССИИ В СТРАСБУРГЕ 15 МАРТА. ТЕМ ВРЕМЕНЕМ АНАЛИТИКИ ПРОДОЛЖАЮТ ДИСКУТИРОВАТЬ НА ТЕМУ САНКЦИЙ ПРОТИВ МИНСКА В КОНТЕКСТЕ ЕГО ОТНОШЕНИЙ С КРЕМЛЕМ.

## Дамоклов меч Брюсселя

«Голосование по Беларуси было отложено до следующего заседания в Брюсселе, чтобы дать белорусским властям больше времени для реагирования», - сообщила пресс-служба Европарламента БелаПАН.

По информации Радио «Свабода», решение связано с отказом Александра Лукашенко помиловать Дмитрия Коновалова и Владислава Ковалева, приговоренных к смертной казни по делу о взрыве в минском метро. Напомним: Беларусь - единственное в Европе государство, которое приводит в исполнение смертные приговоры.

Впрочем, появились и другие версии: о неких сигналах из Минска.

Европарламент должен был призвать Совет ЕС принять решение о целевых экономических санкциях в отношении Беларуси.

31 января 2011 года на заседании в Брюсселе Совет ЕС утвердил список представителей белорусского государства, чей въезд в Евросоюз запрещен и чьи активы на его территории подлежат заморозке. По мнению членов совета, эти лица способствовали нарушению прав человека в Беларуси. Список неоднократно расширялся, и сейчас в нем более 200 фамилий.

В последний раз документ был обновлен 27 февраля 2012 года. Тогда представители ряда стран планировали внести в него имя Юрия Чижа, но за белорусского бизнесмена заступилась Словения, которая, по сообщениям СМИ, имеет в Беларуси деловые интересы.

Тем не менее, белорусские власти 28 февраля рекомендовали главе представительства Евросоюза Майре Море и послу Польши Лешеку Шерепке «выехать в свои столицы для консультаций, чтобы довести своему руководству твердую позицию белорусской стороны о неприемлемости давления и санкций». В Минск для консультаций были отозваны постоянный представитель Беларуси при Евросоюзе Андрей Евдоченко и посол Беларуси в Польше Виктор Гайсенок.

В ответ страны ЕС отозвали своих послов из Минска. На следующей неделе Совет ЕС рассмотрит полный список белорусских предприятий и бизнесменов, к которым могут быть применены санкции.

## Россия вербально защищает союзника

Возможность введения экономических санкций в отношении партнера по Союзному государству обеспокоило Россию. 15 марта российский вице-премьер Дмитрий Рогозин заявил, что в случае ужесточения Евросоюзом политических и экономических санкций в отношении Беларуси Россия окажет ей всестороннюю поддержку.

«Это вопрос не только связан с военно-техническим сотрудничеством. Это в целом межправительственное взаимодействие, - цитирует Рогозина «РИА Новости». - Но могу сказать одно: мы наших белорусских коллег в обиду не дадим».

Москва высказывалась по поводу экономического давления и в прошлом. Перед президентскими выборами Владимир Путин говорил, что санкции ЕС в отношении Беларуси не отразятся на интеграционных процессах в рамках Единого экономического пространства.

Правда, после его победы на выборах правительства Беларуси, Казахстана и России совместно заявили о недопустимости экономических санкций против Минска, которые могут создать препятствия для работы Таможенного союза и ЕЭП. По мнению авторов документа, «это будет иметь негативные последствия, прежде всего для простых граждан».

Отмечая, что Владимир Путин формально остается главой российского правительства, минский обозреватель-международник Роман Яковлевский обращает внимание на противоречивость предвыборной и послевыборной позиций Кремля.

А вот какую позицию занял российский МИД: «Призываем западных коллег воздержаться от попыток оказать давление на наших партнеров по Таможенному союзу. Мы - за равноправный и уважительный диалог, в рамках которого могут быть урегулированы любые возникающие проблемы».

«В данном случае заявление МИД свидетельствует о том, что Москва может более весомо выступать в защиту белорусского режима. А именно - в защиту от возможных экономических санкций», - считает Роман Яковлевский.

Но Андрей Суздальцев, замдекана факультета мировой экономики и мировой политики Высшей школы экономики (Москва) считает, что Россия не станет защищать Беларусь от экономических санкций - по той простой причине, что существенных ограничительных мер со стороны ЕС не предвидится.

«Беларусь торгует с Евросоюзом в основном по двум позициям: это нефтепродукты, выработанные из российской нефти, и собственный продукт, калийные удобрения, - сказал Суздальцев. - Естественно, ЕС никогда не закроет один из источников поступления энергоносителей на свою территорию».

«Кстати, именно эта торговля и обеспечивает Лукашенко валютой», - добавил Суздальцев.

По его мнению, МИД РФ и правительства, представленные в Евразийской экономической комиссии, оказали официальному Минску чисто формальную поддержку в рамках существующих соглашений.

«Хотя, конечно, МИД был обязан это сделать, а вот Евразийская экономическая комиссия это сделала зря», - считает собеседник. На его взгляд, для органа экономической интеграции было бы странным решать политические вопросы, у него иные задачи.

Белорусское руководство, полагает Андрей Суздальцев, повело себя по отношению к партнерам не очень честно: «Минск поднял кампанию в СМИ о том, что скоро грядут экономические санкции - прекрасно понимая, что их не будет. Этим он просто-напросто натравливал Россию на Европу».

**Антон Тарас, «Белорусские новости».**

*Ужо замецены сляды.*
*Мяне забілі. Расстралялі.*
*Ім — што стары, што малады:*
*У сэрцах — ані кроплі жалю…*

*Адзін бязлітасны разлік.*
*Адно жаданне: каб маўчалі…*
*Патух вачэй маўклівы крык.*
*Мяне забілі. Расстралялі.*

*Не напішу радзіне ліст,*
*Дзе ключ да чорнага сакрэту…*
*Пачуйце ж: я не тэрарыст!*
*А тэрарыст жывы й дагэтуль!*
*Так, разумеў: не прыйдзе цуд…*
*Адно зазначу, людажэры:*
*Не вы мой суд, а я ваш суд.*
*Суд праўдай найвышэйшай меры…*

**Рыгор Шэрда, 21:44, 17 сакавіка 2012 .**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742
**Падпісана да друку 18.03.2012 у 18.55.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.